Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

27 лютага — 5 сакавіка 1999 года
№ 9 (167)
Наш індэкс 63834

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

### ІВАЦЭВІЧЫ

## У даўгах, як у шаўках

Так можна сказаць пра большасць нашых калгасаў, а таксама пра іншыя прадпрыемствы Івацэвіцкага раёна.

Па стану на 1 лютага 1999 года запазычанасць па калгасах склала 7249 мільёнаў рублёў і павялічылася на 1207,9 мільёна рублёў. Нядоімку дапусцілі 19 калгасаў з 24.

У ліку вялікіх даўжнікоў калгасы імя Чарткова, "Бальшавік", "Іскра", "Пагор'е", "Савецкая Беларусь", імя Леніна і іншыя. У студзені, напрыклад, ніводная гаспадарка не змагла пагасіць ні рубля даўгоў, хаця па зводках раённай статыстыкі планы па вытворчасці і продажы дзяржаве малака і мяса за мінулы год былі перавыкананы.

Павялічылася запазычанасць райсельгастэхнікі (на 460,5 мільёна рублёў), утварылася яна ў суме 1106 мільёнаў рублёў па Целяханскаму лесагаспадарчаму прадпрыемству. Пакуль што ў даўжніках МПМК-11, ПМК-12, завод ЖБВ і іншыя дзяржаўныя і недзяржаўныя прадпрыемствы.

Сумная статыстыка. І святла ў канцы тунэля пакуль што не відаць.

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ТАТЬЯНА, Водолей. Учусь в одном из вузов Минска. Романтична, верю в настоящее чувство. Не представляю свой отдых без хорошей музыки. Любимые группы "Dire straits", "Queen", "Police".*

**ОТ РЕДАКЦИИ.** В своих письмах, уважаемые красавицы, вы интересуетесь тем, кем и когда будут подводиться результаты нашего с вами конкурса. Сообщаем, что в нынешнем году он будет проводиться в два тура. Мы с вами, уважаемые читатели, выберем две красавицы — первого полугодия и второго. Напоминаем, что первый тур уже идёт и в первом номере второго полугодия мы назовем самую обаятельную и привлекательную читательницу "Газеты для вас".

Для определения победительницы "Газета для вас" планирует создать комиссию из 8—10 человек, которая, листая страницы нашего издания, попробует сойтись в едином мнении. Состав комиссии мы, конечно, сообщим и читателям. Но в расчет будут приниматься и ваши телефонные звонки. Итак, ждем ваших писем и ваших фотографий.

**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: С. Каждуб, А. Горбач (Івацэвічы), А. Лаўранюк, С. Русецкі (Бяроза), прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны), М. Кулікова (Баранавічы) і фотакарэспандэнт А. Ганчук.**

## 4 САКАВІКА — ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ МІЛІЦЫІ



Не выпадкова іх, работнікаў Міністэрства ўнутраных спраў, называюць салдатамі правапарадку. І днём, і ноччу яны заўсёды на пасту, гатовыя прыйсці на дапамогу чалавеку. У ліку іх супрацоўнікі аддзелаў міліцыі: Баранавічаў, Івацэвічаў, Бярозы і Пружанаў. На рахунку гэтых аддзелаў шмат добрых спраў.

Напрыклад, Івацэвіцкі райаддзел міліцыі па выніках за мінулы год стаў лепшым у вобласці. У кагорце лепшых група дзяржаўтаінспекцыі і аддзялення крымінальнага вышуку (кіраўнікі А. А. Арцёмчык і А. І. Глушэня). А лепшым інспектарам дзяржаўтаінспекцыі прызнаны прапаршчык А. Р. Гацуковіч.

Жадаем нашай міліцыі поспехаў і сёлета. Шчыра віншуем усіх са святам!

*НА ЗДЫМКУ: інспектар дарожна-патрульнай службы групы дзяржаўтаінспекцыі Івацэвіцкага райаддзела міліцыі прапаршчык М. С. КОТ. У органах унутраных спраў з 1985 года. За час службы паказаў сябе з самага лепшага боку.*

### БАРАНАВІЧЫ

## Творчая жылка

Прыемная вестка прыйшла ў Баранавіцкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 118 машынабудавання: навучэнец з групы электрыкаў Вадзім Такайчук па выніках рэспубліканскай алімпіяды-конкурсу па тэхнічнай творчасці сярод навучэнцаў ПТВ прызнаны пераможцам і адзначаны грашовай прэміяй у памеры два мільёны рублёў. Таварышы па вучобе і педагогі шчыра павіншавалі юнака.

## Дрэвы састарыліся

Нязвыкла пустымі выглядаюць цяпер многія вуліцы горада. Яны без свайго хараства — дрэў, якія шмат гадоў радавалі вока.

— Насаджэнні згубілі дэкаратыўную каштоўнасць, састарыліся. Растуць такія карчагі і толькі выгляд псуюць, — сказаў дырэктар гарадскога вытворчага аб'яднання ЖКГ В. Н. Рыжыкаў. — Да таго ж канадскія клёны не апраўдалі сябе ў гарадскіх умовах.

Баранавічанам не варта адчайвацца: увесну пасадзяць маладыя дрэўцы — клёны і ліпы. Можна ўявіць, што гадоў праз 20 горад ізноў стане зялёным.

## Подальше от людских глаз

Городской наркологический диспансер вскоре, видимо, получит новое здание. Производственная фирма "Бархим" готова обменять пустующие здания своего детского садика на здания наркодиспансера. Правда, соглашение достигнуто лишь на словах. Трудность в том, что постройки наркодиспансера — собственность городская, а детский сад — республиканская. "Сейчас решаются бумажные вопросы, — сказал главный врач диспансера А. Е. Бутько. — Так что в лучшем случае до конца этого года будет готов лишь проект. После будем делать ремонт".

Расширятся диспансер пока не будет — в новом здании планируется оборудовать те же 60 мест.

Заведующий городским отделом здравоохранения П. А. Монич сказал:

— Ежегодно наркодиспансер возвращает к нормальной жизни до 300 человек. А в связи с тем, что новые здания диспансера будут располагаться в немноголюдном месте, больше будет и уверенности в анонимности лечения.

### БЯРОЗА

## Заграніца ім дапамагае

За грашовыя сродкі, выдаткаваныя Чырвоным Крыжом Даніі, Бярозаўскі раённы камітэт Чырвонага Крыжа набыў 100 харчовых набораў. Кошт аднаго камплекта — 1 млн. 400 тысяч рублёў.

Па рашэнні рабочай камісіі па каардынацыі дабрачыннай акцыі "Надзвычайны прызыў 1998—1999 гадоў", створанай пры райвыканкаме, 14 набораў атрымалі малазабяспечаныя хворыя на актыўны туберкулёз, астатнія 86 — шматдзетныя сем'і і адзінокія састарэлыя жыхары раёна.

## Уласная свініна

Апусцелая, занядбаная будыніна суседнічала з ААТ "Бярозаагразабеспячэнне" і доўгі час мазоліла ўсім вочы. Яна не ўпрыгожвала ні населены пункт — вёску Першамайскую, ні ажыўленую аўтадарогу. Прыкінуўшы, што пабудову можна яшчэ выкарыстаць, дырэктар прадпрыемства Уладзімір Жуковіч распарадзіўся яе адрамантаваць. Памяшканне рабочыя ўцяплілі, зрабілі перагародкі, паставілі кармушкі, а потым завезлі туды парасят, купленых у гаспадарках раёна.

Ужо чатыры месяцы забеспячэнцы гадуюць 645 свіней. Прадпрыемства, якое жыве за кошт паставак аграпрамысловаму комплексу паліва і запчастак, разжылося яшчэ адным артыкулам папаўнення сваёй касы — рэалізацыяй уласнай свініны.

## Чарговы трагічны выпадак

зноў узбударажыў раённы цэнтр. У суботу, 20 лютага, быў перазахаваны Максім Пяткевіч, 22-гадовы жыхар Бярозы, які вучыўся на 5-м курсе БДУ. Месяц таму ў сярэдзіне студзеня хлопец паехаў з дому ў Мінск здаваць залік. Прыехаў, паставіў рэчы і выйшаў... назаўсёды. Цела знайшлі ў Івацэвіцкім раёне і праз два тыдні пахавалі, як неапазнанае. І толькі пазней пасля эксгумацыі экспертыза пацвердзіла асобу загінуўшага. Знаёмыя і суседзі вельмі добра адгукаюцца і аб Максіме, і аб яго бацьках. Наўрад ці былі ў хлопца нейкія вялікія грошы, якія маглі б стаць прычынаю гібелі. Напэўна, няма гэткіх словаў, што маглі б суцешыць гора бацькоў, якія вельмі ганарыліся сваім сынам.

### ПРУЖАНЫ

## В Белоусовщине негры не работают

Есть в Пружанском районе экспериментальная база "Белоусовщина". Тут в больших ангарах хранится картофель. Перед погрузкой он требует переработки и расфасовки. Работа не из легких — нужны кирзовые сапоги, фуфайки, рукавицы.

Работающий на переработке человек за одну тонну получает 60 тысяч белорусских рублей. За смену пожилая женщина столько перебрать не в состоянии. Получается, что женщина-крестьянка в день зарабатывает 40 тысяч. На эти деньги не купить куска мыла, правда, можно купить около двух булок хлеба, чтоб ноги не протянуть и завтра опять придти добровольно на каторгу.

Помните, были времена, когда мы строили светлое будущее и нам СМИ каждый день сообщали, что в Америке негров притесняют, мало платят и т. д. Но не писали, что неквалифицированный рабочий в США не имеет права в час получить меньше 4$ — уровня зарплаты колхозного кладовщика за месяц. Что же говорить о переборщицах картофеля?

## Скачкі з неба

Дзесяцідзённы інструктыўна-метадычны збор спецыялістаў авіяцыйнай выратавальнай службы Ваенна-паветраных сіл Рэспублікі Беларусь і спеццэнтра выжывання лётнага саставу прайшоў на 181-й верталётнай базе, размешчанай у Пружанах. Падчас запланаваных мерапрыемстваў удзельнікі выконвалі скачкі з парашутам з прызямленнем на лес, снег, мёрзлы грунт. Рабілася гэта днём і ноччу пры розных метэаўмовах.

Кіраваў зборам начальнік ВПС РБ палкоўнік Васіль Белавус.

## Шаноўныя чытачы!

Працягваецца падпіска на "Газету для вас" на другі квартал 1999 года. Аформіць яе можна ва ўсіх аддзяленнях сувязі Баранавіцкага, Івацэвіцкага, Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў. Індэкс газеты 63834. Кошт падпіскі: на адзін месяц — 32 тысячы рублёў, на квартал — 96 тысяч. Заставайцеся з намі!

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## "Чэбел" асвоіў "Ладу"

*Першыя швейныя машыны маркі "Лада" з айчынных дэталяў сабраны ў канцы лютага на сумесным беларуска-чэшскім прадпрыемстве "Чэбел" у Гомелі.*

Як паведаміў Віктар Рыжоў — дырэктар свабоднай эканамічнай зоны "Гомель — Ратон", у склад якой уваходзіць СП "Чэбел", прадпрыемства актыўна імкнецца знізіць сабекошт прадукцыі. Канкурэнтаздольны тавар, на думку кіраўніка СЭЗ, ужо запатрабаваны на рынках Беларусі, Чэхіі, Расіі.

У гэтым годзе будзе выпушчана 3,5 тысячы швейных машын "Лада", у вытворчасць якіх закладзены амаль векавыя традыцыі, якія ў сваю чаргу бяруць пачатак ад славутага "Зінгера".

## Літоўская электраэнергія будзе паступаць у Беларусь

*Дагавор з Беларуссю аб пастаўцы электраэнергіі пакуль не будзе скасаваны.*

Аб гэтым паведаміла газета "Летувас айдас". Такое рашэнне было прынята на пасяджэнні ўрада Літвы, дзе вялася размова аб запазычанасці Беларусі за электраэнергію, што пастаўляецца ў нашу рэспубліку. На сённяшні дзень, адзначае газета, яна складае 374,5 мільёна літаў. На пасяджэнні прынята рашэнне, што Беларусь будзе распачлачвацца за электраэнергію таварамі — мазутам, драўнінай, грузавымі аўтамабілямі, трактарамі, іх састаўнымі часткамі і калійнымі ўгнаеннямі.

## З работы не вярнуўся

*Паводле даных камітэта па інспекцыі працы Міністэрства працы, у мінулым годзе ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінулі 294 чалавекі, 627 атрымалі цяжкія траўмы.*

У цэлым гэтыя лічбы ніжэйшыя за сумную статыстыку папярэдняга года. Але аптымізму ў дзяржаўных інспектараў працы гэта не выклікае. Напрыклад, калі ў 1997 годзе зарэгістравана 65 групавых няшчасных выпадкаў, то ў мінулым годзе іх было 80. У выніку пацярпелі 216 работнікаў, з якіх 63 загінулі.

На думку спецыялістаў, 90 працэнтаў усіх няшчасных выпадкаў адбываецца па віне саміх работнікаў і толькі 10 працэнтаў абумоўлены недасканаласцю тэхнікі і тэхналогіі.

## Перапоўненасць

*Следчыя ізалятары (СІЗА) і папраўча-працоўныя ўстановы (ППУ) Беларусі перапоўнены сёння ў паўтара раза.*

Пра гэта паведаміў намеснік генеральнага пракурора краіны Аляксандр Іваноўскі.

Зараз у месцах пазбаўлення волі, размешчаных на 41.600 чалавек, утрымліваецца амаль 64 тысячы асуджаных. У сувязі з гэтым вельмі востра стаіць праблема іх матэрыяльна-бытавога і медыка-санітарнага забеспячэння. Адсутнасць належных умоў утрымання пад вартай прыводзіць да росту сярод зняволеных інфекцыйных захворванняў, туберкулёзу, СНІДу. Апрача таго, з-за складанай сітуацыі ў эканоміцы больш за палову асобаў, што утрымліваюцца ў месцах пазбаўлення волі, не забяспечаны працай, што павялічвае выдаткі дзяржавы на іх утрыманне.

## Выстава твораў Шагала

*Шэсць гадоў таму ў Віцебску быў створаны мемарыяльны Дом-музей сусветнавядомага мастака Марка Шагала.*

Сёння ў яго фондах ужо знаходзіцца больш за 70 арыгінальных графічных работ.

З 16 лютага тут пачала дзейнічаць першая на Беларусі стацыянарная выстава яго твораў. Цяпер гэтае багацце будзе цешыць вока не толькі абмежаванага кола супрацоўнікаў музея і мастацтвазнаўцаў, але і ўсіх прыхільнікаў творчасці нашага славутага земляка.

## Да расстрэлу

*У 1998 годзе да выключнай меры пакарання судамі краіны былі прыгавораны 47 чалавек, да пажыццёвага зняволення — трое, да пазбаўлення волі на тэрмін ад 15 да 25 гадоў — 53 чалавекі.*

Пра гэта паведаміла прэс-служба Вярхоўнага суда Беларусі. Усяго летась судовай сістэмай рэспублікі разгледжана больш за 54 тысячы крымінальных і каля 130 тысяч грамадзянскіх спраў. Былі асуджаны 59.700 чалавек. З іх 21.650 прыгаворана да пазбаўлення волі.

## "Залатая" чацвёрка

*На чэмпіянаце свету па біятлону ў Фінляндыі мужчынская зборная Беларусі заваявала самыя прэстыжныя ўзнагароды — залатыя медалі ў эстафеце 4х7,5 км.*

Па "залатой" лыжні беглі: 1-ы этап — Аляксей Айдараў, 2-і — Пётр Івашка, 3-і — Вадзім Сашурын і 4-ы — Алег Рыжанкоў.

*(БелаПАН).*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Мая кватэра. Ці можна яшчэ яе выкупіць?

*— "Газета для вас?" Хачу даведацца, ці ёсць у мяне яшчэ магчымасць прыватызаваць кватэру?*

*Адны са знаёмых сцвярджаюць, што, маўляў, тэрмін прыватызацыі скончыўся 31 снежня 1998 г., другія кажуць, што ён да 1 ліпеня г. г. працягваецца. Ці не маглі б вы на старонках вашага выдання як мага кампетэнтней адказаць на гэтае пытанне?*

*Вера Антонаўна ( г. Івацэвічы).*

Каб адказаць на гэтае пытанне, мы звязаліся з адпаведнай інстанцыяй Івацэвіцкага райвыканкама. Вось што мы пачулі з вуснаў **вядучага спецыяліста па прыватызацыі Івацэвіцкага райвыканкама І. У. БАЦКАЛЕВІЧ:**

— Прыватызацыя жылля ідзе зараз і будзе працягвацца на працягу гэтага года. Але хачу зрабіць некалькі ўдакладненняў. Да першага ліпеня г. г. прыватызацыя будзе ажыццяўляцца па цэнах на 31 снежня 1991 года. Кошт жылля можна будзе пагасіць чэкамі "Жыллё", якія, як вядома, і распрацаваны ў цэнах на той перыяд. З 1 ліпеня г. г. прыватызацыя будзе адбывацца па іншай схеме. Кошт жылля будзе вызначацца, а пасля памнажацца на індэкс падаражання. Чэкамі "Жыллё", а яны будуць выкарыстоўвацца і пасля 1 ліпеня г. г., вы пагасіце кошт у новых цэнах, а астатак сумы, калі такі будзе, прыйдзецца аплачваць наяўнымі грашыма.

## Выплата ўкладаў вядзецца

*— Мяне цікавіць, калі ж дзяржава, нарэшце, верне нашы грошы па ранейшых укладах?*

*А. БУЛЮК, пенсіянер, жыхар вёскі Святая Воля Івацэвіцкага раёна.*

З гэтым запытаннем мы звярнуліся да **намесніка дырэктара філіяла 111 ААБ "Беларусбанка" Э. М. КАНАНОВІЧА.**

— Выплата па ранейшых укладах, — патлумачыў Эдуард Міхайлавіч, — ідзе з мінулага года. Вядзецца толькі чэкавымі кніжкамі. Сёлета гэтая работа працягваецца...

Але трэба сказаць, што сёлета кампенсацыя па тых укладах будзе выплачвацца толькі наступным катэгорыям грамадзян:

па-першае, тым асобам, якім па стану на 21 красавіка 1998 года (дзень уводу ў дзеянне Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) споўнілася ўжо 65 і болей гадоў; па-другое, ветэранам вайны, якія пералічаны ў артыкуле 2 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 года "Аб ветэранах"; па-трэцяе, інвалідам з дзяцінства ў выніку ранення, кантузіі ці калецтва, звязаных з гадамі вайны; па-чацвёртае, інвалідам 1 і 2 груп (у тым ліку і інвалідам з дзяцінства 1 і 2 груп); папятае, былым вязням фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і былых непаўналетніх вязняў іншых месцаў прымусовага ўтрымання, створаных фашысцкай Германіяй і яе саюзнікамі ў гады вайны; па-шостае, асобам, неабгрунтавана рэпрэсіраваных судовымі і несудовымі органамі па палітычных, сацыяльных, нацыянальных, рэлігійных і іншых матывах і рэабілітаваным у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

КРЫМІНАЛ

## Дубітаўскія рабінзоны

Такую іранічную назву заслужылі двое жыхароў вёскі Дубітава Івацэвіцкага раёна за свае прыгоды ў родным сяле і ў навакольных. Чым жа яны так "праслявіліся"? Але аб усім па парадку.

На працягу доўгага часу (летась і ў студзені гэтага года) жыхары вёсак Дубітава, Була, Рацькавічы жылі ў пастаянным страху. З хат і хлявоў, з прыбудовак і кухань, са склепаў і падворкаў штодзень штосьці знікала: то прадукты харчавання, то розныя прадметы хатняга ўжытку.

У асноўным зладзеі лазілі ў хаты старых людзей, адзінокіх, а таксама ў тыя дамы, у якіх часова ніхто не жыў.

Так, у Рацькавічах з замкнёнага дома былі ўкрадзены тэлевізар, некалькі пар абутку. У вёсцы Була абабралі адзінокую старую жанчыну. Забралі агуркі ў слоіках, кампоты, варэнне, а таксама бульбу. У Дубітаве з кладовак пенсіянераў знікла сала, тушонка, варэнне і іншыя прадукты.

Неўзабаве з дапамогай мясцовых жыхароў удалося ўстанавіць прозвішчы зладзеяў. Імі аказаліся Русакевічы, маці Надзея Сцяпанаўна і сын Аляксандр з вёскі Дубітава. Абое раней судзімыя за крадзяжы. Аляксандр пры тым двойчы, а маці адраблялася штрафамі.

Сын, вярнуўшыся пасля чарговага "адпачынку", нідзе не працаваў. А маці ўладкавалася вартаўніком на калгаснай ферме. Сапраўды, дзіўна — злодзей дый у вартаўніках.

Хата Русакевічаў заўсёды на замку. Маці і сын паяўляліся дома толькі ноччу, калі штосьці прыносілі і хавалі. Дзейнічалі вельмі асцярожна. Каго ні пыталі, ніхто не мог дакладна сказаць, дзе іх шукаць. Але ў адну з лютаўскіх раніц па свежых слядах на снезе ўдалося знайсці дубітаўскіх рабінзонаў.

Надзея Сцяпанаўна, напрыклад, зрабіла сабе хованку ў сцірце саломы прыкладна за паўтара кіламетра ад Дубітава. У той глыбокай нары ў саломе яна і сядзела па цэлых днях, пакуль не сцямнее, а потым вылазіла адтуль і ішла на сустрэчу з сынам, каб правярнуць чарговую "аперацыю".

Аляксандр у сваю чаргу бавіў час у лесе, у кіламетрах трох ад вёскі. Расклаўдаў касцёр і ўвесь дзень сядзеў ля яго. Тут і засталі маладога вяскоўца.



Пры аглядзе хаты Русакевічаў (вядома, пры сведках) была знойдзена частка ўкрадзенага і вернута гаспадарам.

Па фактах адзначаных крадзяжоў узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства. Яно і адкажа на многія пытанні дзейнасці дубітаўскіх рабінзонаў у роднай вёсцы і ў іншых населеных пунктах. Што ж тычыцца пакарання мясцовых зладзеяў, якога патрабуюць пакрыўджаныя, то, я не сумняваюся, што суд абавязкова скажа сваё слова.

*А. ГЛУШЭЦ, начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

ВАША ПІСЬМО

## Няма месца роднай мове

Звярнуў увагу на тое, што "Газета для вас" у матэрыяле пра Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод пераклала назвы гарэлак з рускай на беларускую мову. Навошта перакладаць на родную мову гэтыя недарэчныя назвы? Хай чытаюць людзі і ведаюць, што роднай мове няма ў нас месца нават на этыкетцы.

На мой погляд, такая сітуацыя — сведчанне якраз правінцыялізму работнікаў прадпрыемства, а не чагосьці іншага. Гэтак жа вясковец, заехаўшы ў горад, пнецца, тужыцца схаваць сваю беларускасць, гаворыць па-руску і, здзіўлены, заўважае, што некаторыя гараджане гамоняць на роднай мове і не саромеюцца таго.

Дарэчы, на буйнейшым у Беларусі Мінскім лікёра-гарэлачным заводзе не саромеюцца роднага слова. "Два буслы", "Крышталь", іншыя беларускія назвы сведчаць аб тым, што да роднага слова на гэтым прадпрыемстве іншыя адносіны.

Ці зразумее хто на Брэсцкім лікёра-гарэлачным, што наша Беларусь усё ж такі сінявокая, а не "синеокая"?

*Аляксей. г. Косава.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 25.02.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 300—360 | 360—400 | 350—380 | 290—360 |
| Сала салёнае | 340 | 350 | 350 | 310—340 |
| Алей (1 л) | 280—370 | 240—380 | 270—390 | 280—350 |
| Яйкі | 90—100 | 90—120 | 90—100 | 90—110 |
| Малако (3 л) | 50 | 60 | 50 | 30—40 |
| Тварог | 60 | 70 | 60—80 | 50—60 |
| Масла сметанк. | 250 | 260 | 250 | 200—240 |
| Цыбуля рэпч. | 150 | 150 | 130 | 70—90 |
| Капуста | 20 | 30—40 | 30 | 10—20 |
| Бульба | 15 | 20 | 15 | 10—15 |
| Морква | 20 | 30—40 | 30 | 10—15 |
| Часнок | 200 | 370 | 400 | 200 |
| Яблыкі | 100—170 | 180 | 130—150 | 90—150 |
| Лімоны | 360—400 | 400 | 400 | 350—400 |
| Апельсіны | 300 | 260—300 | 300 | 250—300 |
| Бананы | 330 | 300 | 320 | 260—300 |
| Грэчка | 120 | 120 | 130 | 130 |
| Макар. вырабы | 110 | 90—100 | 110 | 110 |
| Рыс | 165 | 165 | 170 | 170 |
| Цукар | 130 | 130 | 130 | 130 |
| Мёд | 650 | 800 | 650 | 600 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ**
**(у тысячах рублёў)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 310 | 330 | 310 | 330 | 310 | 330 | 310 | 330 |
| 1 дойчмарка | 160 | 170 | 160 | 170 | 160 | 170 | 150 | 170 |
| 1 рубель Расіі | 11 | 12 | 11 | 12 | 11 | 12 | 11 | 12 |

***З пісьма ў рэдакцыю: "Паважаная "Газета для вас"! Я жыву ў Косаве, ва ўласнай хаце. Мне 74 гады. Пенсіянерка. Адзінокая. Звяртаюся да вас з просьбай дапамагчы абараніць мяне ад бюракратычных нападкаў, несправядлівасці з боку мясцовай вертыкалі. Ніякай дапамогі ад іх, адны штрафы ўмеюць выносіць. Так было з забруджаным калодзежам, затым з вадзяной калонкай, з рамонтам хаты, з уборкай смецця.***

***У горадзе няма ні вадаправода, ні прыроднага газу, ні рынку, ні смеццяўборачнай машыны. Ніхто не цікавіцца, што тут робіцца..."***

***Ф. ГРЭЦКАЯ,***
***г. Косава, вул. 3 лютага, 26.***

*ВАКОЛ ПІСЬМА*

# НЯМА СПАКОЮ ВЕТЭРАНУ

**1.**

Жыццё ніколі не песціла Фядору Дзям'янаўну Грэцкую. А наадварот, усяго дабівалася сама, сваім розумам. Адразу пасля вайны пачала працаваць у Косаве, у гарсавеце. 17 гадоў аддала гэтай рабоце. Аднак месца прыйшлося ўступіць, бо ў такім органе павінны быць толькі члены партыі, а Грэцкая была беспартыйнай.

Уладкавалася на працу ў дзіцячы садок. А там зноў патрабаванне — толькі са спецыяльнай адукацыяй павінны быць кадры. Каб не згубіць работу, паступіла ў Магілёўскае педвучылішча на завочнае аддзяленне і праз тры гады атрымала дыплом. Фядоры Дзям'янаўне тады ўжо было 42. Мала хто ведае, колькі цяжкасцей пераадолела жанчына. Сям'я, дзеці, вучоба, паездкі. Але ж вытрымала і стала дыпламаваным спецыялістам.

Трэба заўважыць, што ў маладыя гады Фядора Грэцкая паступіла ва ўніверсітэт, марыла стаць гісторыкам. Але па сямейных абставінах пакінула вучобу, аддаўшы ёй два гады. Не склалася і сямейнае жыццё. Дачку і сына гадавала сама. Сама і будавалася. Шмат пакут выпала на долю гэтай жанчыны.

Выйшаўшы на пенсію, Фядора Дзям'янаўна яшчэ некалькі гадоў працавала ў сельскай школе. Хацелася свой дом падрамантаваць, а грошай не хапала. У 1984 годзе рассталася і са школай. Быў такі дыскрымінацыйны закон, што працуючаму пенсіянеру плацілі толькі 50 працэнтаў заробку. Стала нявыгадна дарэмна аддаваць сваю працу, і Фядора Дзям'янаўна стала, як кажуць, круглай пенсіянеркай.

Здавалася, атрымлівай пенсійныя грошы і жыві сабе спакойна. Але ж жанчыну чакалі наперадзе новыя, зусім нечаканыя выпрабаванні.

**2.**

Неяк Грэцкая заўважыла, што вада ў яе калодзежы пахне газай. Звярнулася ў гарсавет, там пасмяяліся і параілі звярнуцца ў санстанцыю. Зрабіўшы аналіз, работнікі гэтай установы канстатавалі, што ў вадзе выяўлена ў невялікай колькасці дызельнае паліва (салярка). Бралі аналізы вады ў калодзежах суседзяў, але ў іх, як сцвярджалі работнікі санстанцыі, вада не забруджаная. Значыць, зрабілі вывад мясцовыя чыноўнікі, гаспадыня калодзежа, відаць, сама знарок сапсавала тую ваду, а цяпер нечага дабіваецца.

Аднак не такі характар у Фядоры Дзям'янаўны, каб адразу здавацца. Яна пісала ў розныя інстанцыі — раённыя, абласныя, рэспубліканскія. Зноў работнікі санстанцыі прыязджалі ў Косава, бралі ў калодзежы ваду на аналіз, зноў жа такі, як і раней, давалі адказ Ф. Д. Грэцкай. Словам, усё заставалася па-ранейшаму.

А тым часам у калодзежы Грэцкай тая салярка ўсё прыбывала і прыбывала, быццам нейкая падземная крыніца выбілася на паверхню. Суседзі заходзілі, каб зачарпнуць трохі саляркі для палення смецця. А трактарысты вёдрамі залівалі тую вадкасць у бакі сваіх машын. І на гэты раз ніхто не верыў, што аднекуль сюды магло цячы гаручае. Вінавацілі, вядома, ва ўсім гаспадыню дома.

Фядора Дзям'янаўна была проста ў недаўменні. Што рабіць, куды яшчэ звярнуцца? Згубіла ўсялякую веру ў мясцовую, раённую і абласную ўлады. Нічога яны не дапамаглі пенсіянерцы.

— Сапраўды, я была ў адчаі, — гаворыць Фядора Дзям'янаўна. — Але ж супакойвацца і не думала. Аднойчы я сабрала ўсе свае паперы па гэтай справе і паехала ў Мінск. Выпрасіла папасці на прыём да самога прэзідэнта. Але ж да яго трэба запісвацца на чаргу і доўга чакаць. Таму накіравалі мяне ў адміністрацыю прэзідэнта. І вось там мяне ўважліва выслухаў, пазнаёміўся з маімі дакументамі Пятро Маркавіч Ярашкевіч. Ён узяў пад кантроль маю справу. Таму на месцы заварушыліся...

Ужо з Брэста прыехалі браць аналізы з калодзежаў. Салярку, хоць і ў невялікай колькасці, але ж выявілі і ў суседзяў, хаця раённыя спецыялісты з санстанцыі чамусьці гэтага не заўважалі.

У хуткім часе ўстанавілі і "крыніцу" паступлення саляркі. Побач з домам Грэцкай знаходзілася гарадская пякарня. Яна ацяплялася саляркай. Падземнае сховішча знаходзілася за метраў дваццаць ад будынка і па трубе падавалася ў кацельню. Тая труба праржавела, і салярка ўжо свабодна цякла ў зямлю. А калодзеж Грэцкай быў глыбокі. Вось туды і прабіла сабе дарогу тое гаручае.

Яшчэ спатрэбіўся некаторы час, каб віноўнік у забруджанні калодзежа (а гэта райспажыўсаюз) вярнуў гаспадыні ў яе двор чыстую пітную ваду. Ад вадаправода, што побач з магазінам, была зроблена ўрэзка, і ў двары Грэцкай паявілася ваданапорная калонка. На жаль, адзіная ў горадзе. Праўда, павінны былі яшчэ засыпаць той смярдзючы калодзеж, але не зрабілі. Ці часу не хапіла, ці жадання.

Так закончылася дзесяцігадовая "эпапея" з калодзежам.

**3.**

Думалася Фядоры Дзям'янаўне, што цяпер ужо можна спакойна дажываць свой век. Аднак новае выпрабаванне пачалося для пенсіянеркі. У горадзе зачынілі Дом культуры, бо аварыйны будынак, і перанеслі той ачаг культуры ў кінатэатр, які якраз насупраць дома Грэцкай цераз вуліцу.

— А дыскатэкі ў ім праводзяцца праз дзень, — кажа Фядора Дзям'янаўна. — І ўсе маладыя людзі хлынулі да мае калонкі на вадапой, бо суседзі мае ў сваіх калодзежах паздымалі вёдры, каб не забруджвалі ваду. Калі б па-людску абыходзіліся з вадой, дык не. Параілі мне зняць ручку з калонкі, але і гэта не дапамагло. Цагліны знаходзяць, б'юць па той калонцы. Відаць, нядоўга ёй жыць...

Хачу дадаць, што паламалі і паваліпі агароджу ля дома ветэрана працы. А рамантаваць няма каму. Звярталася Фядора Дзям'янаўна і ў гарсавет, і ў райвыканкам, і ў Брэст. Усюды абяцаюць, але з тых абяцанак ніякага толку. Праўда, у лютым тут пабывалі чыноўнікі з райвыканкама (Л. К. Скіндзер і З. С. Пархомік) і прапанавалі пацярпець, пакуль адрамантуюць Дом культуры. Тады, маўляў, не будзе наведвальнікаў калонкі. Што ж, пенсіянерка Грэцкая навучылася цярпець. Але ж цярпенне — катэгорыя не вечная. Па-ранейшаму застаецца адно і тое ж: на старога чалавека ніхто не звяртае ўвагі. А вось патрабаваць ад яго ў нас вельмі ўмеюць.

**4.**

Неяк мінулай восенню мясцовая ўлада г. Косава змагалася за чысціню і парадак на вуліцах горада. Справа, вядома, добрая. Фядора Дзям'янаўна не засталася ўбаку ад гэтай работы. Пазграбала лісце ля сваёй агароджы ад вуліцы, што нападала з дрэў гарадскога азелянення. Паспрабавала тое смецце спаліць, але ж мокрае не гарыць. Так і засталося ляжаць у кучках, як і праз вуліцу ля кінатэатра.

Пры праверцы, як прыбраны вуліцы, камісія палічыла, што Грэцкая не ўбрала як след участак ля свайго плоту, дадалі да гэтага няскошаную траву ў яе агародзе і аштрафавалі пенсіянерку на 350 тысяч рублёў.

Сапраўды, выклікае здзіўленне, за што ж аштрафавалі 74-гадовую жанчыну. Лісце ж пазграбала.

— А куды я дзену яго, — гаворыць Фядора Дзям'янаўна. — Сілы ў мяне няма, каб вывезці. Транспарту таксама. Хай гарсавет аб гэтым клапоціцца...

Сказаць па праўдзе, выклікаюць здзіўленне патрабванні гарсавета да састарэлага чалавека. Не хочаш вуліцу прыбраць (ці не можаш) — штраф.

І з той мізэрнай пенсіі Грэцкай вылічылі 350 тысяч рублёў. У судзе разбіраліся так: ёсць рашэнне адміністрацыйнай камісіі, значыць, напісалі сваю пастанову (каго там хвалюе жыццё старога чалавека!) і адаслалі ў аддзел сацыяльнай абароны насельніцтва, каб вылічылі грошы. Вось такія "клопаты".

**5.**

Што ж будзе ў далейшым? Складваецца ўражанне, што старому чалавеку, але ўпартаму, які не схіляе галавы ні перад цяжкасцямі, ні перад пагрозамі, ні перад штрафамі, хочуць паказаць, як гаворыцца, яго месца. Падарванае складаным жыццём здароўе Фядоры Дзям'янаўны пагаршаецца з кожным днём. Нікога не хвалюе, што ветэрану не хапае грошай ні на лекі, ні на добрае харчаванне, дык трэба выкарыстаць няважную выедзенага яйка зачэпку, каб пакараць яго матэрыяльна. Я ўжо не гавару аб тых маральных выдатках, якія наносяцца старому чалавеку.

Няма спакою ветэрану! Фядора Дзям'янаўна зноў збіраецца шукаць добрага чалавека ў Мінску, куды яна зноў думае ехаць. А ці пашануе на гэты раз пенсіянерцы з Косава, цяжка сказаць. І жыве Фядора Дзям'янаўна Грэцкая ў пастаяннай трывозе за свой дзень сённяшні і заўтрашні. Пад агульныя воклічы пра спакойную і забяспечаную старасць у Беларусі...

***С. КАЖАДУБ.***
*г. Косава Івацэвіцкага раёна.*

*ГОЛАС НАРОДА*

# У якой краіне вы хацелі б жыць?

Перабудова і галоснасць далі магчымасць нам, постсавецкім людзям канца стагоддзя, больш уважліва прыгледзецца да таго жыцця, якое цячэ за межамі нашай Радзімы. Тэлебачанне, радыё, газеты шмат распавядаюць аб падарожжах і круізах, аб нашых суайчынніках, што адпачываюць і працуюць "за бугром".

Сведчанне іх дабрабыту — высокааплачваемая праца ў краінах Заходняй Еўропы. А, дарэчы, у якой краіне свету вы хацелі б жыць, калі б перад вамі ўзнікла магчымасць выбраць? Вось што на гэтае пытанне адказалі жыхары г. Івацэвічы.



**Вова:** Жыць, канешне, лепш за ўсё дома. А вось каб грошы зарабляць, трэба дзесьці далей ехаць. У нас жа таксама можна няблага жыць, было б чым задавальненні аплачваць. Бо пры нашых заробках моцна не разгонішся. Адным словам, у мяне наступны кампраміс: працаваць паўгода дзе-небудзь у Германіі ці Швецыі, а жыць астатнія паўгода — на радзіме.

**Людміла:** Сённяшняя беларуская рэчаіснасць вымушае звяртаць свае позіркі за межы Беларусі.

Я выбрала б месцам жыхарства адну з заходніх краін, але не ЗША, бо апошнім часам гэта краіна на сябе, так бы мовіць, многа бярэ. Якую канкрэтна... Там дзе цяплей. Францыю (паўднёвая частка), Італію, Іспанію, Швейцарыю.



**Ніна Аляксееўна, Віктар Ануфрыевіч**: Змілуйцеся, а дзе ж так добра як не ў Беларусі роднай? Вы думаеце, што мы камусьці там за мяжой патрэбны? Нікому не патрэбны! Як бы там ні было, і ў Беларусі можна добра жыць. А хіба ў нас горшыя магчымасці для адпачынку? На берагах нашых рэк, азёр такія краявіды, такая прыгажосць, што не патрэбны аніякія Канары.

*А. ГОРБАЧ,*
*А. ГАНЧУК (фота).*

*РЭАЛІІ ДНЯ*

# Цэнавы шквал: этапы вялікага шляху

Час ідзе, і зрывае ён не толькі лісткі календара. Яшчэ хутчэй зрываюцца, змяняюцца цэннікі ў нашых магазінах. Здаецца, зусім нядаўна супрацоўнікі "Газеты для вас" здзіўляліся на старонках свайго выдання, што самая танная каўбаса (паўвэнджаная) у магазінах г. Івацэвічы (па стану на 18 лістапада) каштавала 227 тысяч рублёў ("Газета для вас", № 73 за 1998 год).

З таго часу прайшло крыху больш за тры месяцы. І што мы назіраем зараз? А тое, што на 23 лютага амаль ва ўсіх магазінах г. Івацэвічы паўвэнджанай каўбасы танней за 616 тысяч не было. Выключэннем сталі ўніверсам і гастраном № 2, у якіх распрадаваліся апошнія кілаграмы паўвэнджанай каўбасы па 531 тысячы рублёў. Рост больш чым відавочны: у месяц 115-120 тысяч. Неблагі, трэба прызнацца, тэмп. Калі ён захаваецца, а ніякіх падстаў лічыць, што цэны "замерзнуць" па камандзе зверху няма (ці мала ў гэтыя апошнія месяцы было загадаў, заклікаў, каманд, патрабаванняў), то цераз тыя ж тры месяцы ў нашых магазінах паўвэнджаную каўбасу танней чым за 1 мільён за кілаграм не купіш. Такія вось этапы вялікага шляху.

Незвычайна збяднеў асартымент малочных вырабаў. У магазінах нашага рэгіёну, акрамя кефіру, малака і незвычайна дарагога маргарына, нічога не бачна. Зрэдку з'яўляецца тварог, смятана. Каб не пуставалі прылаўкі, яны застаўлены мінералкай, кукурузнымі палачкамі, шакаладкамі. Даўным-даўно не відаць ні мяккіх сыроў "Нарач", "Адыгейскі", "Клінковы", ні цвёрдых — "Пашахонскі", "Галандскі" і інш.

Стабільна растуць у цане хлеб і кандытарскія вырабы. Калі справядлівы размовы пра тое, што ў засеках Айчыны амаль няма сваёй мукі, а на пакупку трэба шмат валюты, то трэба чакаць, што тэмп дробнага падаражання (падаражанне як быццам неістотнае, але амаль штодзённае) захаваецца аж да канца лета. Пакуль не выйдуць у поле родныя камбайны.

Выклікае абурэнне тое, што пры агульных размовах аб прывязанасці нашага крызісу да расійскага, нашай грашовай адзінкі да курсу замежных валют, цэны ў цяперашні час, нягледзячы на нейкае фінансавае зацішша, з тым жа імпэтам рвуцца наперад. На вачах даражэе цукар, гарэлка, віно. На цукеркі, чай, пячэнне ўстаноўлены такія цэны, што самлець можна. Амаль у два разы падаражэў чыгуначны транспарт, зноў узнялася цана на білеты ў прыгарадных аўтобусах...

Ці будзе канец гэтай эстафеце?

*А. МІХАЛЕНКА.*

